БРЫЛЕЎСКІ летапіс
ІНФАРМАЦЫЙНА - ГРАМАДСКІ БЮЛЕТЭНЬ
№ 27 (46) снежань 2007 г.
Выдаецца з мая 2006 г.

# На Міколу - "Тры Міколы"

*19 снежня 2007 г., у дзень Святога Мікалая, у Цэнтральнай бібліятэцы імя Я. Купалы г.Мінска адбылася літаратурная вечарына “Тры Міколы”, прысвечаная творчасці мастака Міколы Бушчыка, паэта Міколы Шабовіча і паэта і кампазітара Міколы Яцкова. Шматлікія наведвальнікі мелі магчымасць убачыць своеасаблівыя карціны М.Бушчыка, пачуць лірычныя вершы М.Шабовіча і ўслухацца ў меладычныя песні М.Яцкова на вершы М.Шабовіча, М.Башлакова і Н.Гальпяровіча. Мікола Яцкоў таксама чытаў свае вершы і літаратурныя пародыі на вершы Міколы Шабовіча. Спявак Анатоль Міхальчэнкаў упершыню выканаў песню М.Яцкова і М.Шабовіча “Хай гавораць”. Спявалі таксама Алег Малашчыцкі, Кацярына Сапожнікава, вершы чыталі паэты Святлана Ім і Таццяна Сівец. Падарункам для сталічнай бібліятэкі з’явілася песня на верш Янкі Купалы “А ў бары, бары”, якую выканалі Ала і Мікалай Яцковы разам з глядзельнай залай.*

**Аліна Савіцкая.**






# "Тры Міколы"

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі наладзіла плённае супрацоўніцтва з бібліятэкамі сталіцы і асабліва з Цэнтральнай публічнай бібліятэкай імя Янкі Купалы.**

Менавіта ў Купалаўскай бібліятэцы адбываюцца ўсе самыя значныя сумесныя мерапрыемствы: паэтычныя чытанні і святы, прэзентацыя кніг і выступленні пісьменнікаў, вечары і інш. Так, напрыканцы года ў актавай зале бібліятэкі адбылося свята паэзіі, музыкі і жывапісу “Тры Міколы”. Пад знакам самага шануемага ў беларусаў святога Міколы Цудатворца або Міколы Зімовага вядомыя беларускія творцы мастак Мікола Бушчык, паэт Мікола Шабовіч, кампазітар і паэт Мікола Яцкоў дзяліліся з прысутнымі творчымі здабыткамі, шчодра дарылі людзям энергію сваёй душы. Свята пачалося з адкрыцця выставы карцін Міколы Бушчыка. Ён распавёў пра сябе, сваю творчасць, пра родныя мясціны, што з’яўляюцца і зараз крыніцамі яго натхнення.

Затым чытаў свае творы Мікола Шабовіч. Гучалі песні Генадзя Кубаркі, Алега Малашчыцкага і Міколы Яцкова ў выкананні Кацярыны Сапожнікавай, Алега Малашчыцкага, Анатоля Міхальчэнкава, Алы і Міколы Яцковых.

Кампазітар і паэт з Магілёўшчыны Мікола Яцкоў таксама чытаў свае вершы і выконваў песні.Удзельнікаў свята віншавалі пранікнёнымі радкамі Таццяна Сівец і паэтэса з Добруша Святлана Ім.

У зале бібліятэкі панавала атмасфера шчырай зацікаўленасці, сардэчнасці і гасціннасці. На працягу ўсяго вечара ўзнёслы і эмацыянальны настрой ствараў і падтрымліваў аўтар праекта і вядучы вечара паэт Міхась Башлакоў.

**Марына ПАЛІТЫКА.**

Голас Радзімы

Штотыднёвік «Голас Радзімы»
№ 1 (3073), пятніца, 11 студзеня 2008 г.

# На вечарыне трох Міколаў

Дзень Святога Міколы аб’яднаў трох таленавітых Міколаў — паэта Міколу Шабовіча, мастака Міколу Бушчыка і кампазітара Міколу Яцкова. У бібліятэцы імя Янкі Купалы ў Мінску яны ладзілі сапраўднае свята творчасці. Трэба сказаць, што ў такім шматжанравым фармаце культурная вечарына ў сталіцы праводзілася ўпершыню. Тры Міколы распачалі новую традыцыю — збіраць разам творчыя набыткі. Кожны з удзельнікаў прэзентаваў уласную творчасць. Спачатку ўрачыста адкрылі выставу Бушчыка. Карцін у яго шмат, і, вядома, не ўсе змясціліся ў бібліятэчнай зале. Астатнія вырашылі паказаць у слайдах. Потым палілася музыка: Мікола Яцкоў заспяваў разам са сваёй жонкай Алай. Песню змяніла паэзія: госці пачулі вершы Шабовіча. Нягледзячы на тое, што кожны ўдзельнік выступаў у сваім жанры, свята атрымалася даволі гарманічным. Справа ў тым, што ўсе тры Міколы сябруюць ўжо шмат гадоў і добра ведаюць творчасць адзін аднаго. Ладзячы вечарыну, яны разам адбіралі тыя творы, якія маглі б стварыць пэўнае сугучча. Мікола Шабовіч, напрыклад, дэкламаваў вершы, прысвечаныя Міколу Бушчыку, чытаў гумарыстычныя пародыі на сябра-кампазітара. Мікола Яцкоў у сваю чаргу выконваў песні, напісаныя на словы паэта. Акрамя сяброўства, творцаў звязала і дзіўнае супадзенне: жывапісец і музыка нарадзіліся на вясновага Міколу — 22 мая (дарэчы, дзень Святога Міколы адзначаецца два разы на год). Вельмі знакавым у гэтым сэнсе стаў падарунак мастака Аляксандра Верашчагіна — ікона, на якой намаляваны Мікола-Цудатворац з тварам... Міколы Бушчыка. Своеасаблівы партрэт размясціўся ў цэнтры залы, дзе ладзілася вечарына, і стаў сімвалам свята. Чаму менавіта яму выпаў такі гонар? Мне здаецца, таму, што творцы таксама здольныя на цуды. Іх вершы, карціны, песні могуць зрабіць вялікі ўплыў на чалавека, яго настрой, нават на фізічнае самаадчуванне.

Гэты вечар атрымаўся сапраўды незвычайным. Госці доўга не хацелі разыходзіцца: на працягу цэлай гадзіны пасля выступлення гутарылі з Міколамі, бралі ў іх аўтографы...

***Вольга Карней.***

# МІНСКАЯ ПРАЎДА
## 14.02.2008 г.

# «СОЮЗ ТРЁХ МУЗ»

*До того, как замрёшь на последней меже,*
*В этом мире подумать успей о душе,*
*Ибо там, оказавшись с пустыми руками,*
*Ничего наверстать не успеешь уже.*

Омар Хайям.

Современная библиотека как центр интеллектуального, психологического, эстетического воздействия на человека помогает духовно-нравственному воспитанию. Пример тому – встреча в Центральной городской библиотеке им.Я.Купалы, где происходило приобщение к прекрасному одновременно через слово, музыку и зрительное восприятие. А подарили её посетителям люди, посвятившие свою жизнь творчеству. Праздник поэзии, живописи и музыки “Тры Міколы” свёл вместе поэта Миколу Шабовича, художника миколу Бущика и композитора Миколу Яцкова. Участники праздника – люди очень разные, но объединяет их то, что смысл жизни они видят в творчестве. Интересный факт: дни рождения Миколы Бущика и Миколы Яцкова приходятся как раз на 22 мая (весенний день памяти святителя Николая), а день рождения Миколы Шабовича ближе к зимнему дню памяти святого. Любопытно, что художник М.Бущик, оказывается, пишет стихи, а композитор М.Яцков – поэт, член Союза писателей. Ведущему Михасю Башлакову – поэту, настоящему мастеру слова удалось так тонко сплести нить повествования, что зал слушал и воспринимал всё на одном дыхании.

Выставка картин художника М.Бущика, с которой можно было познакомиться ещё до начала встречи, и слайды его работ, которые проецировались на экран в продолжение всего вечера создавали атмосферу волшебства. Потому что у него своё восприятие мира, он находит такие краски, что картины его напоминают совершенно нереальные, какие-то космические пейзажи. И вместе с тем настоящие и живые. М.Бущик пишет не только маслом, он мастер акварели: чистота красок, сочность, яркость, разноцветье земли и неба...

Второй участник праздника – поэт Микола Шабович, уроженец прекрасной мядельской земли. Вот как он определил в стихотворении “Шлях да Бога” смысл жизни:

*Куды ні едзь, ні кроч,*
*А сэнс жыцця людскога –*
*Шукаць і ўдзень, і ўноч*
*Адзіны шлях – да Бога.*

Нельзя сказать, что в творчестве этого мастера много религиозных мотивов, но присущая ему доброта, чуткость, нежная забота о ближних и постоянная готовность помогать людям, которые в нём нуждаются, характеризуют его как достойного человека,придерживаюшегося основных христианских заповедей. Его жизненное кредо – "Любовь превыше всего": любовь к Богу, любовь к ближнему. Именно в своей любви люди возвышаются, становятся чище, душа их расцветает и раскрывается. Считается, что чувство влюблённости больше присуще молодым людям. В таком случае поэт Микола Шабович -- приятное исключение. Доминирующей темой его творчества на протяжении уже почти трёх десятков лет была и остаётся тема любви. Недаром ведущий открыл небольшой секрет – оказывается, неофициально М.Шабович носит звание "самага закаханага паэта Беларусі". Никогда не изменяя своей излюбленной теме, автор наработал свой особый творческий почерк. Его стихи приобрели узнаваемость, их отличает внутренняя ритмика, что позволяет многие из них положить на музыку. Но лучше всего не говорить о стихах, а читать их.

Любовная лирика поэта пришлась по душе и молодым слушательницам, в основном это были студентки Белорусского государственного педагогического университета им.М.Танка, которые пришли в этот вечер послушать любимого поэта и своего учителя, и людям, умудрённым жизненным опытом, которых собралось в этот вечер в зале немало.

М.Шабовичем и М.Яцковым также были исполнены пародии на стихотворные опусы, творческие просчёты друг друга и на стихи других авторов.

Третий участник вечера Микола Яцков – композитор и поэт. Им написано около 800 песен, некоторые из них были исполнены самим композитором. Прозвучали песни на стихи присутствовавших в зале поэтом М.Шабовича, Н.Гальпяровича, других авторов.

Всё действо было так созвучно настроению слушателей, что казалось – сам святой Николай незримо присутствует на этом празднике, устроенном в его честь, и мерцающий огонёк свечи усиливал эту волшебную иллюзию.

***Надежда СЕНАТОРОВА,***
***библиограф Национальной библиотеки Беларуси.***

# З м е с т





*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Цэнтральная публічная бібліятэка**
**імя Янкі Купалы г.Мінска**

# “ТРЫ МІКОЛЫ”

***Вечарына***

**Укладальнік -- А.М.Яцкова.**
**Рэдактар -- М.А.Яцкоў.**

**Фотаздымкі -- М.Д.Хамец.**

*У афармленні вокладкі*
*выкарыстана рэпрадукцыя карціны*
*“Партрэт Міколы Бушчыка”*
*(аўтар - Аляксандр Верашчагін).*

Выдавец і паліграфічнае выкананне




*22.06.2008 г.*
*213107 в.Брылі Магілёўскага раёна, Беларусь*
brylibelarus@gmail.com

